# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА



№4(8)
КРАСАВІК
2001 года

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ


## СЛАВУТЫЯ НА ЎСЕ ВЯКІ!

**Васіль Быкаў, Максім Багдановіч, Яўхім Карскі, Ларыса Геніюш, Цётка (Алаіза Пашкевіч) – першая пяцёрка славутых людзей Гарадзеншчыны.**

У лік дзесяці асобаў, вызначаных конкурсам “Чалавек ХХ-га стагоддзя”, увайшлі таксама **Браніслаў Тарашкевіч, Міхась Ткачоў, Барыс Кіт, Антон Жэбрак, Юры Астроўскі**. Гэта – вынік апрацоўкі 112 анкет, запоўненых сябрамі Беларускага краязнаўчага таварыства імя Т.Нарбута і асобнымі краязнаўцамі Гарадзеншчыны. На жаль, не атрыманы анкеты ад 80 іншых удзельнікаў конкурсу і большасці сяброў краязнаўчых аб’яднанняў Гродна.

Спіс лепшых навукоўцаў нашага краю альбо нашых землякоў склалі **акадэмік Я.Карскі, прафесар М.Ткачоў, акадэмікі Б.Кіт, А.Жэбрак, Ю.Астроўскі, прафесар А.Мальдзіс, акадэмік А.Мігдал**.

У намінацыі “Чалавек Гарадзеншчыны 2-га тысячагоддзя” спіс першых дзесяці асобаў наступны: **Вітаут Вялікі, Кастусь Каліноўскі, Адам Міцкевіч, Францішак Багушэвіч, Яўхім Карскі, Давыд Гарадзенскі, Стэфан Баторый, Ларыса Геніюш, Тодар Нарбут, Антоні Тызенгауз.**

Шэраг удзельнікаў конкурсу аддалі прыярытэт выдатнай постаці Беларусі **Францыску Скарыне**. Гэтае зразумелае рашэнне не адпавядала рэгіянальным мэтам конкурсу і не ўлічана пры падвядзенні вынікаў.

## ХРЫСТОС УВАСКРОС! САПРАЎДЫ УВАСКРОС!




“Краязнаўчая газета” шчыра віншуе чытачоў бюлетэня, усіх краязнаўцаў Гродзеншчыны і Беларусі са Светлым Хрыстовым Уваскрэсеннем. Дык будзьма ж вітаць адзін аднаго і ўсё стварэнне Божае радасным Велікодным воклічам:

Хрыстос уваскрос!
Сапраўды уваскрос!

## ПАКІНУЎ ІМЯ Ў ГІСТОРЫІ

Газета “Народная воля” прысвяціла артыкул Міхаілу Без-Карніловічу. Народжаны 10 кастрычніка 1796 года, Міхаіл Восіпавіч прысвяціў жыццё ваеннай службе. Тапаграфічныя здымкі рабіў у Мінскай, Наўгародскай, Віцебскай, Валынскай губернях, а таксама ў Беластоцкай акрузе. У сваёй кнізе “Гістарычныя звесткі” занатаваў археалагічныя помнікі і помнікі старажытнага дойлідства. Асабліва шмат дакументальных сведчанняў пакінуў аб населеных пунктах Віцебскай, Магілёўскай і заходніх паветах Смаленскай губерніі. Аўтар прыводзіць многа паданняў, легендаў, назіранняў пра побыт сялян. Гэта адзін з нямногіх даследчыкаў старажытнай гісторыі Беларусі.

Памёр Міхаіл Без-Карніловіч 19 студзеня 1862 года.

Газета “Народная воля” працягвае краязнаўчую серыю публікацый.

**Сцяпан Ярашчук**

## АДБУДЗЕЦЦА СЕМІНАР

Гістарычны клуб Міжнароднага Адукацыйнага цэнтра запрашае прыняць удзел у міжнароднай навуковай канферэнцыі “1941 год на Беларусі. Погляд з XXI-га стагоддзя”.

Канферэнцыя адбудзецца 25-27 мая ў памяшканні Міжнароднага Адукацыйнага цэнтра (пр. Праўды, 11).

Плануюцца даклады, дыскусіі па наступных праблемах: “Гісторыяграфія і краязнаўства”, “Беларускае грамадства і вайна”, “Заходняя і Усходняя Беларусь у 1941 г.”, “Баявыя дзеянні лета 1941 г.” і інш.

Чакаюцца выступы навукоўцаў з Нямеччыны, Польшчы і Украіны.

Заяўкі і тэксты паведамленняў прымаюцца да 25 красавіка. Па выніках канферэнцыі будзе выдадзены зборнік .

Кантакты ў Мінску:

Тэл./факс: (017) 226-40-65,
(017) 270-70-04,
(017) 284-16-31.

E-*mail: belliga@usa.net.*

■ УЛАСНАЕ МЕРКАВАННЕ

# ЗБЕРАГАЮЧЫ ТРАДЫЦЫІ МІНУЛАГА

*Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Яўхіма Карскага з'яўляецца старэйшай на Беларусі. Яе гісторыя бярэ пачатак 17-га верасня 1830 года. Першым бібліятэкарам быў ксёндз Міхаіл Зелянко, удзельнік паўстання супраць царскага прыгнёту, сасланы ў Арэнбург, дзе сустракаўся з Тарасам Шаўчэнкам. Да інсургентаў далучыўся і другі бібліятэкар Фама Красоўскі...*

*Сваімі думкамі дзеліцца дырэктар Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я.Ф.Карскага* ***Лідзія Васільеўна МАЛЬЦАВА.***

— Летась мы адзначалі 170-годдзе нашай бібліятэкі. На шчасце, захавалася шмат архіўных дакументаў. Да адкрыцця бібліятэкі прычыніўся тагачасны гродзенскі генерал-губернатар Міхаіл Бабяцінскі. Напачатку было толькі 40 чытачоў з вышэйшых пластоў насельніцтва. Фонд папаўняўся марудна. Напрыклад, у 1841 годзе было 308 кніг, ці 1221 том. Установа доўга не мела сталага памяшкання...

**— Гэта можна сказаць і пра сённяшні дзень. Бібліятэка размяшчаецца ў чатырох прыстасаваных будынках. Ці ёсць надзея займець, нарэшце, сваё памяшканне – адзінае і назаўсёды?**

— Ёсць, калі будзе выконвацца рашэнне аблвыканкама ад чэрвеня 2000-га года "Аб стане і перспектывах развіцця бібліятэчнай справы ў вобласці". Прадугледжвалася, у прыватнасці, у бягучым годзе выдзяленне фінансавых сродкаў на праектаванне тыповага будынку. Мяркуецца адкрыццё пераплётнай майстэрні на нашай базе, забеспячэнне камп'ютарнай тэхнікай.

**— Гаворачы пра стварэнне аўтаматызаванай інфармацыйна-бібліяграфічнай сістэмы, відавочна, што без сучаснага абсталявання не абыйсціся, напрыклад, без тых жа камп'ютараў...**

— Сёмы год як асвоена праграма "Інфармкультура", у базу дадзеных якой уваходзяць матэрыялы па праблемах культуры і мастацтва Гродзеншчыны. Цяпер дзейнічаюць 14 аўтаматызаваных рабочых месцаў, дзесяць з якіх уключаны ў лакальную сетку. З 1999-га года адкрыты доступ чытачоў да электроннага каталога з амаль 60 тысячамі бібліяграфічных запісаў. Забяспечана работа дзевяці падсістэм: "Камплектаванне", "Аналітыка", "Краязнаўства", "Апрацоўка", "Рэтраспекцыя", "Абслугоўванне чытачоў" і інш. У мінулым годзе атрымалі грант з фонда прэзідэнта Беларусі па падтрымцы культуры і мастацтва па праекту "Аўтаматызацыя бібліятэчных працэсаў у Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я.Ф.Карскага".

**— Бібліятэка калісьці пачынала сваю дзейнасць з 40 чытачоў. За мінулыя 170 гадоў гэтая лічба, відаць, мела толькі тэндэнцыю павелічэння?**

— Адназначна не скажаш. У 1854 годзе бібліятэка пачала абслугоўваць насельніцтва. Напрыклад, у 1890 годзе колькасць месячных абанентаў дасягнула 631. Карыстанне бібліятэкай было платным. У асноўным творы набываліся на ахвяраванні, папаўняліся выданнямі, якія ўрадавыя рэдакцыі высылалі бясплатна. Асабліва цяжка было ў 1860-1865 гадах. У 1877 годзе бібліятэка пачала атрымліваць урадавую субсідыю, што дазволіла выпісваць перыядычныя выданні. У 1924 годзе абслугоўвалася 2200 чытачоў, у канцы 20-х гадоў – 2500. Аднак кніжны фонд скараціўся з 40 тысяч (1926) да 25 тысяч (1929). У 1940 годзе колькасць нашых чытачоў дасягнула чатырох тысяч. Бібліятэк у Гродне тады было 25.

У часе Вялікай Айчыннай вайны страчана 35 тысяч экземпляраў. Частку спалілі гітлераўцы.

Сёння інфармацыйны патэнцыял складае 595, 2 тысячы. У 2000-м годзе абслужылі 46 тысяч пастаянных чытачоў і 211 тысяч наведвальнікаў наогул. У першым квартале 2001 года нашу бібліятэку штодзень наведвала 1200 асобаў.

**— Краязнаўства таксама не выпадае з поля зроку работнікаў бібліятэкі. Існуе аддзел інфармацыйна-бібліяграфічнай і краязнаўчай работы, вядзецца збор выданняў вядомых гродзенскіх даследчыкаў...**

— Краязнаўчыя і мясцовыя дакументы займаюць у сістэме фондаў цэнтральнае месца. Тут адлюстравана шматгранная дзейнасць насельніцтва Гродзеншчыны розных часоў. Ёсць працы губернскага статыстычнага камітэта, рэдкія манаграфічныя агляды, дакументы рэвалюцыйнага і даваеннага перыядаў. Найбольш каштоўныя выданні – "Агляд народнай гаспадаркі Польшчы" (Варшава, 1927), А.Кайгародава "Клімат Заходняй Беларусі" (Мінск, 1832), А.Зязюлі "З роднага загону" (Вільня,1931). Пра гісторыю роднага краю маем работы цяперашніх даследчыкаў і вучоных В. Шведа, А. Госцева, В. Чарапіцы, А.Смаленчука,А.Дабрыяна...

Фонд перыядычных выданняў налічвае каля 110 тысяч экземпляраў. Фонд газет складае 143 назвы, у тым ліку ўсе мясцовыя і галіновыя газеты. А там друкуецца нямала артыкулаў краязнаўцаў. Праведзена даследаванне "Краязнаўчыя дакументы і чытач", выдаюцца творчыя працы "Краязнаўчы календар", "Літаратура аб Гродзенскай вобласці", "Каляндар знамянальных сусветных дат". З 1959 года складаецца краязнаўчая картатэка "Гродзенская вобласць у друку". Выдадзена шмат дапаможнікаў.

Хвалюе тое, што востра адчуваецца недахоп твораў беларускіх пісьменнікаў, уключаных у школьныя праграмы для вывучэння. У гэтым віна выдавецтваў. У 1892-1896 г. нашу бібліятэку ўзначальваў вядомы краязнаўца, педагог і вучоны Адам Ягоравіч Багдановіч, які шмат зрабіў для яе развіцця. Яго сын Максім стаў гонарам нацыянальнай паэзіі. Студэнты і школьнікі часта просяць кнігі беларускіх аўтараў. А ў фондах такой літаратуры недастаткова...

**Інтэрв'ю правёў**
**Антон Лабовіч**

■ АСОБЫ НАДНЁМАНСКАГА КРАЮ

# АКАДЭМІК БАРЫС КІТ НАВЕДАЎ БЕЛАСТОК



Сусветна вядомы Беларус, акадэмік астранаўтыкі Барыс Кіт даў інтэрв'ю газеце "Ніва" (нумар ад 15.04.2001). Вялася шчырая гаворка пра яго лёс і беларускія справы, пра творчае і навуковае жыццё вучонага ў амерыканскім і нямецкім асяродку…

А сама сустрэча адбылася ў Беластоку. Карэспандэнт штотыднёвіка Ганна Кандрацюк, у прыватнасці, запытала:

— Што Вы лічыце сваім найбольшым поспехам?

Акадэмік адказаў:

—Два такія вялікія поспехі – асветніцтва на Беларусі і астранаўтычная праца ў Амерыцы…Гэта агонь чалавечай душы цягне нас да адкрыццяў, прыгодаў, новых прастораў.

У час побыту ў Беластоку Барыс Кіт меў гутарку са старшынёй Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі прафесарам Андрэем Майсяёнкам. Была абмеркавана хада конкурсу "Шляхам Барыса Кіта з XX-га ў XXI-е стагоддзе", друкаванне на Бацькаўшчыне ўспамінаў акадэміка., выкананне праектаў супрацоўніцтва беларускай і нямецкай моладзі.

Адбыліся шматлікія сустрэчы Барыса Кіта з польскімі і беларускімі навукоўцамі, журналістамі радыё "Рацыя", выдання "Czasopisa", газеты "Ніва".

Хвалюючым было знаёмства Барыса Кіта з сям'ёй памёрлага ўжо Аркадзя Лашэвіча – былога старшыні вучнёўскіх камітэтаў Віленскай і Наваградскай гімназій (у пасляваенны час буйнога партыйнага і дзяржаўнага дзеяча ПНР). Разам з Віктарам і Барбарай Лашэвіч акадэмік адведаў вернуты праваслаўным Супральскі кляштар Тыкацін, Белавежу, пакланіўся месцу апошняга спачыну Аркадзя Лашэвіча. Дарэчы, Лашэвіч паходзіць з Бераставіцкага раёна.

Прыезд у Беласток акадэміка Барыса Кіта выклікаў вялікую зацікаўленасць гісторыкаў. Дзякуючы выдатнай памяці Барыса Уладзіміравіча, даследчыкам адчыніліся многія невядомыя старонкі грамадскага і палітычнага жыцця міжваеннага часу, лёсы барацьбітоў за беларускую ідэю ў Заходняй Беларусі.

Як бачна, свой 91-ы год (6 красавіка) Барыс Уладзіміравіч Кіт сустрэў у выдатнай форме мудрага скарбніка беларускага духу і спадчыны, мемуарыстам і рупліўцам выхавання беларускай моладзі на Бацькаўшчыне і за яе межамі. Ён мае непахісную любоў да Радзімы, застаецца верным святым запаветам лепшых сыноў зямлі Беларускай, яе апосталаў.

Да іх належыць і сам акадэмік Барыс Кіт, і мы жадаем яму новых светлых дасягненняў у высакароднай справе абуджэння нацыянальнай свядомасці.

**А.Діснёнак**

**На здымку: Андрэй Майсяёнак, акадэмік Барыс Кіт (у цэнтры), Ганна Кандрацюк. Беласток, сакавік 2001 г.**

# ДА ЎВАГІ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ КОНКУРСУ

## "Шляхам Барыса Кіта: з XX-га ў XXI-е стагоддзе"

Рэдакцыя "Краязнаўчай газеты" удзячна школьным краязнаўчым аб'яднанням і асобным краязнаўцам за цікавасць да постаці акадэміка астранаўтыкі Барыса Кіта і згоду ўдзельнічаць у азначаным конкурсе.

Паведамляем, што працы, якія адпавядаюць мэтам конкурсу (гл. "Краязнаўчую газету" № 3-4 за 2000 г.), высылаюцца на адрас рэдакцыі **да 20 мая г.г.** Праца (адзін экз.) павінна быць афармлена ў камп'ютарным альбо машынапісным (дапускаецца рукапісны) варыянце памерам 10-15 старонак, збрашуравана, мець спасылкі на выкарыстаныя крыніцы, аздоблена, па-магчымасці, ілюстрацыямі: малюнкамі, фотаздымкамі, фотакопіямі.

Прымаюцца да разгляду таксама працы, якія раней не былі заяўлены, але адпавядаюць мэтам конкурсу. Асабліва запрашаюцца згодна пажаданню Барыса Кіта да ўдзелу ў конкурсе школьныя і краязнаўчыя аб'яднанні Пастаўскага, Глыбоцкага, Вілейскага раёнаў, а таксама вучні школаў-інтэрнатаў і беларускага нацыянальнага ліцэю.

Паведамляем, што таксама працягваецца конкурс **"Радавод маёй сям'і"**, прысвечаны акадэміку Яўхіму Карскаму. Працы, падрыхтаваныя па ўзору папярэдняга конкурсу, высылаюцца на адрас рэдакцыі **да 25 мая – 230023, г. Гродна, п/с 22.** Калі ласка, рабіце пазнаку **"Конкурс-2001".**

Пераможцаў і ўдзельнікаў чакаюць цікавыя прызы.

■ ПЕРАПІСКА

# "ВЯТРАК" ВЁСКІ МІРНАЯ…



Я хацеў бы атрымліваць "Краязнаўчую газету". Спадзяюся, што мая просьба споўніцца. А цяпер крыху пра нашу добраахвотную суполку "Вятрак", у якой згуртавалася моладзь ад 12 да 18 гадоў. Нас лучыць адзіны інтарэс – прапаганда беларускай мовы, культуры, гісторыі. Гэта мы робім праз СМІ, бюлетэні, брашуры, правядзенне конкурсаў у навучальных установах.

Мы штомесяц выдаем бюлетэнь "Вятрак", адсылаем яго нумары кожнаму сябру суполкі. Паседжанні праводзім таксама раз на месяц. Кожны сябра нашай арганізацыі абавязаны здаць справаздачу за гэты перыяд аб праведзенай рабоце і папоўніць міні-бібліятэку новай мастацкай кнігай. Наша суполка мае свой гімн, словы якога напісаў слонімскі паэт Сяргей Чыгрын.

У бягучым годзе запланавана правесці шэраг краязнаўчых мерапрыемстваў.

**Алег Шэлестаў,**
**кіраўнік ТМА "Вятрак".**
**в.Мірная, Слонімскі раён.**

■ *КРАЯЗНАЎСТВА: ПРАБЛЕМЫ І НАБЫТКІ*

# ГАЛЬШАНЫ – МЕСЦА ГІСТАРЫЧНАЕ

Людзі майго пакалення цвёрда трымаліся за аднойчы абраную прафесію. Я ўсё жыццё аддаў педагагічнай працы. У 1957 годзе закончыў гістфак Гродзенскага пединстытута. Працаваў дырэктарам Гальшанскай СШ рабочай моладзі, намеснікам дырэктара Гальшанскай сярэдняй школы, дырэктарам гэтай школы. Цяпер выкладаю гісторыю і кірую музеем Гальшанскай СШ.

Краязнаўствам заняўся ў 1962 годзе. Тады ж арганізаваў гісторыка-краязнаўчы музей у школе. Прымаў удзел у шматлікіх абласных і рэспубліканскіх канферэнцыях.

Вывучаю гісторыю і этнаграфію Гальшан і яго ваколіц. Публікаваў у друку вынікі сваіх даследаванняў. Сапраўды, як многа можна даведацца, калі сур'ёзна займацца пошукавай работай. Здавалася б, пра Гальшаны, мясціну гістарычную і знакамітую, напісана шмат, што яшчэ можна дадаць! Лічу, што даследчай работы хопіць яшчэ не на адно пакаленне.

Мне ўдалося сабраць матэрыял і выдаць у 1987 годзе кнігу "Гальшаны". Ганаруся, што мае артыкулы змешчаны ў кнігах "Школьны музей", "Ашмяншчына", "Энцыклапедыя Беларусі". Найбольш удалымі атрымаліся працы "Мясцовы матэрыял на ўроках", "Гісторыя вёскі выхоўвае", "Гальшаны", "Гальшанскае княства", "Помнікі архітэктуры ў Гальшанах". Многа допісаў змешчана ў мясцовым і рэспубліканскім друку.

**Эдуард Корзун,**
**в. Гальшаны Ашмянскага раёна.**

# ЗАЛАТОЕ КОЛА БАРАНАВІЦКАГА РЭГІЁНА

Ідэя стварэння "Залатога кола..." узнікла ў лютым 1999 г. У межы дадзенага рэгіёна, на думку ініцыятараў праекта, сябраў эколага-краязнаўчага грамадскага аб'яднання "Неруш" уваходзяць акрамя г. Баранавічы і Баранавіцкага р-на часткі Навагрудскага, Карэліцкага, Слонімскага р-наў Гродзенскай вобласці.

У параўнанні з суседнімі Нясвіжам, Мірам, Навагрудкам, Слонімам вызначаны намі рэгіён звычайна не разглядаецца як адзін з цэнтраў беларускай гісторыі. Магчыма таму большасць помнікаў гісторыі і культуры нашага рэгіёна, яго роля ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці малавядомы шырокай грамадскасці.

Першым крокам праекта, які быў падтрыманы Баранавіцкай радай ТБМ імя Ф.Скарыны, стала экспедыцыя па Баранавіцкаму р-ну. Былі наведаны Новая Мыш (радзіма паэта Яна Чачота), замчышча на беразе ракі Мышанка, дзе быў размешчаны замак Храптовічаў, музей Цешаўлянскай школы. Маршрут адной з экспедыцый прайшоў побач з рэшткамі ўнікальнай трохкутнай царквы і палацавага комплексу ў Сваротве, уніяцкай царквы ў Пачапава, гарадзішча жалезнага веку.

Летам 2000 г. па ініцыятыве ЭКГА "Неруш" было праведзена вывучэнне экалагічнай сітуацыі ў старажытных парках Баранавіцкага р-на, якія маюць статус помнікаў прыроды – Туганавічы, Крашын, Ястрэмбель, Вольна, Чэрніхава, а таксама парку Кутаўшчына. Складзены кадастр раслін і жывёлаў, якія вызначаны на тэрыторыі дадзеных паркаў. Адзначана значнае антрапагеннае ўздзеянне на прыродныя комплексы паркаў, а часам – нават знішчэнне экзотаў.

У лістападзе 2000 г. была праведзена навуковая канферэнцыя "Роля Баранавіцкага рэгіёна ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці".

У чэрвені 2001 г. мяркуем правесці заняткі ў летняй экалагічнай школе непасрэдна ў старажытных парках раёна з мэтаю іх вывучэння і ачысткі. У чэрвені-жніўні працягнем экспедыцыі. На гэты раз – ва ўсходнюю і паўднёва-усходнюю часткі рэгіёна.

**Уладзімір Зуеў,**
**прэзідэнт ЭКГА "Неруш".**

# ЭКАЛОГІЯ ЯК СРОДАК ВЫХАВАННЯ

Як людзі прыходзяць да краязнаўства? Кожны пасвойму. Я заняўся гэтай работай у 1988 годзе, працуючы настаўнікам геаграфіі і экалогіі Сялявіцкай СШ Слонімскага раёна. Да гэтага ў 1978 годзе закончыў геаграфічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, завочную аспірантуру Інстытута філасофіі і права АН Беларусі, абараніў кандыдацкую дысертацыю, працаваў інжынерам Мінскай абласной інспекцыі па ахове прыроды.

Напачатку прыняў удзел у краязнаўчай экспедыцыі "Мая Радзіма – СССР". Затым былі рэспубліканскія турыстычна-краязнаўчыя паходы "Наш край", удзел у сходах, краязнаўчых чытаннях і канферэнцыях у Брэсце, Мінску, Гродне.

Мы ўзялі кірунак на эколага-геаграфічнае краязнаўства. Вывучаем тапаніміку, геалогію, збіраем легенды і паданні, займаемся комплексным апісаннем вёскі і яе наваколля.

Дзякуючы даследаванням роднага краю, напісаў вучэбны дапаможнік "Экалагічнае навучанне і выхаванне вучняў на ўроках геаграфіі і ў пазакласнай рабоце", змяшчаю артыкулы ў часопісе "Народная асвета", прысвечаныя праблемам малых рэчак і вадаёмаў, выкладанню геаграфіі і экалогіі.

**Сяргей Клёсаў,**
**в.Сялявічы Слонімскага раёна.**

# КАЛІ СПАТРЭБІЦЦА МАЯ ДАПАМОГА...

Вялікае дзякуй вам за дасланыя нумары "Краязнаўчай газеты". Цікавае выданне, змяшчае карысную інфармацыю. Добра было б атрымліваць своечасова звесткі аб маючых адбыцца краязнаўчых канферэнцыях на Гарадзеншчыне, новых выданнях па гісторыі і краязнаўству.

На жаль, з-за адсутнасці часу ў мяне амаль няма магчымасці апублікаваць мае напрацоўкі па Ашмяншчыне і Лідчыне. Хацелася б па-сапраўднаму ўдзельнічаць у краязнаўчым жыцці Гарадзеншчыны. Паведамляйце аб краязнаўчых праектах, якія ажыццяўляюцца.

**Г. Брэгер , г. Мінск**

■ ЧАЛАВЕК ЗЯМЛІ ГАРАДЗЕНСКАЙ

70 гадоў таму, 29 красавіка 1931 г., перастала біцца сэрца аднаго з выдатнейшых сыноў Беларусі, славутага гісторыка-славіста, пачынальніка беларускай філалогіі, мовазнаўства, фалькларыстыкі акадэміка Пецярбургскай АН Яўхіма Фёдаравіча Карскага.

Імя ўраджэнца вёскі Лаша Гродзенскага раёна нададзена абласной бібліятэцы, адной з вуліц Гродна.

## Яўхім Карскі:

**“Беларускі народ існуе як нацыянальная адзінка, ён стварыў сваю арыгінальную культуру, родную мову, багатыя традыцыі і невычарпальную скарбніцу вуснай народнай творчасці”.**



# ПІШУЦЬ ПІСЬМЫ З САНКТ-ПЕЦЯРБУРГА

**Даследчык жыцця акадэміка Я.Ф.Карскага жыхар Гродна Апанас Пятровіч Цыхун часцяком атрымлівае пісьмы. Але ёсць адрасы, адкуль ён чакае вестак з нецярпеннем. У Санкт-Пецярбургу жыве яго добрая знаёмая, унучка Яфіма Фёдаравіча Карскага –Таццяна. Вось, у прыватнасці, радкі з яе нядаўняга ліста:**

Ваш цудоўны музей і Вашу работу ўжо нікому не паўтарыць. У Вас быў энтузіязм, навуковы падыход, гарачыя пачуцці. Гэта Вы, Апанас Пятровіч, як бы ўваскрэсілі Карскага ў другой палове XX-га стагоддзя, прыцягнулі ўвагу да яго жыцця. Без Вашай сістэматычнай і самаадданай работы не было б і Карскіх чытанняў, якія зараз праводзяцца рэгулярна.

У чэрвені 1999 года споўнілася 80 гадоў Мікалаю Гапеевічу Булахаву. Ён запрасіў мяне прыняць удзел у падрыхтоўцы яго чарговага зборніка. Я паслала яму дыскету з артыкуламі “Аб сямейным жыцці акадэміка Я.Ф.Карскага”. Занатавала ўспаміны маёй бабулі Соф’і Мікалаеўны Карскай пра тое, як яна пазнаёмілася з Яўхімам Фёдаравічам, першых гадах іх сумеснага жыцця ў Вільні, дзе мой дзядуля быў настаўнікам 2-й гімназіі. Гэтага будынку ўжо няма. Але я з задавальненнем пахадзіла па старых вулках, якія, спадзяюся, дагэтуль памятаюць крокі маіх родных.

Цяпер дамагаюся, каб улады ўсталявалі памятную шыльду на доме, у якім жыў (у Петраградзе – **“КГ”**) Я.Ф.Карскі з 1920 па 1931 гг. Звязалася з беларускім консулам. Ён шмат наабяцаў, аднак справа нешта не рухаецца. Дакументы ўсе сабраны. Хадайнічаюць Акадэмія Навук Расіі, беларускае навукова-культурнае таварыства. Думаю падключыць і зямляцтва. Усё ж такі, кажуць, што ў Санкт-Пецярбургу 80 тысяч беларусаў.

Здароўя і шчасця Вам, Апанас Пятровіч!

**Таццяна Карская**

**На здымку: акадэмік Яўхім Карскі. 1930 г.**

■ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ КРАЯЗНАЎЦЫ

## Шаноўная рэдакцыя ...

Вельмі ўдзячна за атрыманыя нумары бюлетэня “Краязнаўчая газета”. Многія раздзелы выкарыстоўваем не толькі ў пазакласнай рабоце, але і на ўроках беларускай мовы і літаратуры. Лічу, што такі матэрыял неабходны ўсім нам. Бо хто, як не настаўнікі роднага слова данясуць павагу і пашану да бацькоўскага краю, роднай нацыі, да беларускасці.

Бюлетэнь з задавальненнем чытае ўся наша сям’я (муж — настаўнік працы і фізкультуры; дачка — настаўніца беларускай мовы і літаратуры; дачка – вучаніца 11-га класа), а таксама настаўніца беларускай мовы нашай школы Марына Іванаўна Станеўская, настаўніца рускай мовы Марыя Міронаўна Асіпцова, арганізатар пазакласнай работы Галіна Аляксееўна Македон.

Мы шчыра ўдзячны за патрэбнае выданне і чакаем наступных нумароў “Краязнаўчай газеты”.

**Ірына Швек, Слонімскі раён**

## Буду трымаць з вамі сувязь

З задавальненнем прымаю прапанову стаць сябрам Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута. У бліжэйшы час буду імкнуцца стаць карэспандэнтам “Краязнаўчай газеты”, хаця профіль маёй навуковай працы не так цесна звязаны з краязнаўствам.

Зараз інтэнсіўна працую над другім томам работы “Дакументы і матэрыялы” даследавання “Беларусь і Нямеччына. Культурныя ўзаемадзеянні. 1914-1941”. Увосень планую здаць рукапіс яго рэдактару прафесару К.Гутшміту.

У будучым маю намер выкарыстаць сабраны матэрыял і звярнуцца да тэмы “Гродзеншчына ў нямецкіх дакументах і публікацыях ад старажытнасці да сёння”.

**Уладзімір Сакалоўскі, прафесар, г. Мінск**

## Трэба мець сваю рэспубліканскую газету!

Шчыра ўдзячны за кожны дасланы мне нумар бюлетэня. Цікавае і карыснае выданне. У маёй асабістай бібліятэцы ёсць па нумару “Партызанскай дубінкі” і газеты-плаката “Раздавім фашысцкую гадзіну”. Для чаго я іх прыгадаў? З-за подпісу: ”Прачытай і перадай другому!”. Гэты заклік мне падказаў, як адносіцца да “Краязнаўчай газеты”. Многія мае землякі і калегі па рабоце (педагогі Іўеўскай дапаможнай школы-інтэрната) пра яе бадай што і не ведаюць. Таму я рашыў у школьнай бібліятэцы арганізаваць яе падшыўку!

У справе выхавання краязнаўства не мае роўных. На мой погляд, гэта аснова, падмурак. Але і тут ёсць вялікі прабел – адсутнічае рэспубліканскае выданне накшталт “Краязнаўчай газеты”. Трэба нешта рабіць у гэтым кірунку.

**Іван Говар, ветэран педагагічнай працы. Іўеўская дапаможная школа-інтэрнат.**

■ **ПА СТАРОНКАХ КРАЯЗНАЎЧЫХ БЮЛЕТЭНЯЎ**




Выданне заснавана ў 1991 годзе Пастаўскай раённай арганізацыяй ТБМ імя Ф.Скарыны. Рэдактар – Міхал Гіль (211840, г.Паставы, вул. Бальнічная, д. 11. Тэл./факс 02155 2-17-84; E-mail: gil@postavy. belpak. vitebsk. by

Юбілейны, соты нумар, запрасіў да сябе ў госці іншыя выданні Паставаў: "Крэсы", "Краязнаўца Паазер'я", "Прававое акно", "Сяброўка", "Тамара", "Шыпшына", "Ліхтарык", а таксама новы бюлетэнь вёскі Лынтупы "Беражніца". Свой бюлетэнь наважыліся выдаваць актывісты з мястэчка Варапаева.

Прозвішчы аўтараў "Сумежжа" гавораць самі за сябе – вядомыя журналісты Уладзімір Шык ("Калядныя вечары пашведску"), Алесь Касцень ("Местачковая плошча", "Скрыня кансерваў", "Няўдача з рассохлай падлогай"). Выклікаюць цікавасць беларуская народная казка "Зачараваныя грошы" Тамары Храпавіцкай, вершы Ігара Пракаповіча.




Бюлетэнь культурна-асветніцкага цэнтру імя Язэпа Драздовіча і ТБМ імя Францішка Скарыны. Рэдактарам з'яўляецца Ада Райчонак з вёскі Германавічы Віцебскай вобласці.

Цікавым быў надрукаваны краязнаўчы матэрыял "Святар і пісьменнік", прысвечаны 110-годдзю з дня нараджэння Ільдэфонса Бобіча. У Германавічаўскім музеі культуры і быта пра гэтага выдатнага беларускага рэлігійнага дзеяча расказала выстаўка.

Яшчэ ён вядомы, як празаік Пётра Просты. Максім Багдановіч у свой час адзначаў: "У аднаго толькі Пётры Простага ёсць праўдзівая здольнасць. Галоўная вартасць яго – у стройным развіцці дзеяння ды ў сціснутасці і гучнасці мовы, надзвычай пекнай па сваймў складу".

І.Бобіч выдаў у 1914 годзе першы беларускамоўны каталіцкі малітоўнік "Бог з намі". Працаваў у Германавічах, Іўі, што на Гродзеншчыне. Тут і пахаваны ў 1944 годзе.




Рэгіянальная культурніцка-экалагічная газета "Шыпшына" заснавана Пастаўскай раённай арганізацыяй ТБМ імя Ф.Скарыны, распаўсюджваецца ў Браславе, Глыбокім, Мёрах, Паставах, Шаркоўшчыне, Мядзелі, Астраўцы. Рэдагуе выданне Наталля Пракаповіч (г.Паставы, вул. Паркавая, 52. Тэл. 02155 3-52-04).

У адным з апошніх нумароў выданне змясціла весткі аб дзейнасці дзіцячага краязнаўчага цэнтра. Гэта краязнаўчыя вандроўкі, збор матэрыялаў пра гісторыю мясцовых прамысловых прадпрыемстваў, хроніка Манькавіцкай царквы, спроба паказаць родную Пастаўшчыну вачыма гасцей з Польшчы, класіфікацыя назваў паселішчаў раёна…




Бюлетэнь краязнаўцаў Заходняй Віцебшчыны. Рэдактар Міхал Гіль. Адно з нямногіх выданняў, якое часцяком распавядае пра вядомых краязнаўцах-земляках. Напрыклад, Вітаўце Ермалёнку, настаўніку гісторыі з горада Мёры. У падборцы "Постаці. Спроба стварэння партрэта краязнаўцы" змешчаны яго развагі аб школьным краязнаўстве, спіс публікацый гэтага аўтара і допісаў пра яго.

**Каментарый "КГ". Той факт, што па-сутнасці ў адным гарадку выдаецца адразу некалькі бюлетэняў, заслугоўвае павагі. Прычым, гэтыя выданні рыхтуюцца да высокім прафесійным узроўні. Матэрыялы вылучаюцца змястоўнасцю і глыбінёю распрацоўкі. Адчуваецца рука спецыялістаў-гісторыкаў, вопытных краязнаўцаў. Такія бюлетэні заўсёды знойдуць свайго чытача. Так трымаць і надалей!**

■ **ДАЛЁКАЕ – БЛІЗКАЕ**

# КЛАПАЦІЎСЯ ПРА МУЗЕЙ

У абласной газеце "Гродненская правда" 12 снежня 1951 года было змешчана пісьмо дырэктара Біскупіцкай 7-гадовай школы Ваўкавыскага раёна Аляксея Карпюка пад назвай "Забыты музей".

Аўтар допісу паведамляе, што пабудова, у якой чатыры-пяць гадоў месціцца краязнаўчы музей, гістарычны. Тут у 1812 годзе знаходзіўся штаб арміі Баграціёна. Дырэктар гэтай культурнай установы Ю.І.Пех захоўвае каля дзесяці тысяч экспанатаў. Афармлена толькі дзве экспазіцыі, прысвечаныя адпаведна Сувораву і Баграціёну.

Аляксей Карпюк раіць прыкласці намаганні для збору матэрыялаў часоў Заходняй Беларусі (1921-1939 г.), Вялікай Айчыннай вайны, прадметы быта. Аднак работнікі Ваўкавыскага райкама партыі не разумеюць выхаваўчай ролі музея. Дах памяшкання працякае, адсутнічае паліва. Будынак не ахоўваецца.

**Уладзімір Кавалёў**

**"КГ". Гэтая публікацыя – яшчэ адно сведчанне няўрымслівага характару вядомага беларускага пісьменніка, заядлага краязнаўцы Аляксея Карпюка. На той час ён яшчэ не меў надрукаваных у часопісах твораў. Яго шматлікія кнігі ўтрымліваюць шмат краязнаўчага матэрыялу.**

# ЧАРНОБЫЛЬ – БОЛЬ І СМУТАК БЕЛАРУСІ

Пасля Чарнобыльскай катастрофы мінула 15 гадоў. Гэтая навала закранула і Гродзеншчыну. У зоне радыёактыўнага забруджвання ад 1 да 5 Кі/кв.км апынулася амаль 150 населеных пунктаў. У тым ліку 44 – у Дзятлаўскім, 80 – у Іўеўскім, 26 – у Навагрудскім раёнах. Тры вёскі (Збойск і Гердушкі Іўеўскага, Гнесічы Навагрудскага раёнаў) знаходзяцца ў зоне радыёактыўнага забруджвання ад 5 да 10 Кі/кв.км.

Амаль 28 тысяч чалавек, у тым ліку 6,5 тысячы дзяцей жывуць на тых тэрыторыях. У пазначанай зоне ёсць 65 сельгасгаспадарак вобласці з агульнай плошчай угоддзяў амаль 70 тысяч гектараў. Там жа знаходзяцца больш 70 тысяч асабістых падворкаў грамадзян.

За мінулы час на Гродзеншчыну перасялілася з зонаў адсялення Гомельскай і Магілёўскай абласцей амаль пяць тысяч сямей, ці 17 тысяч чалавек.

Для іх пабудаваны пасёлкі ў Гродзенскім, Лідскім, Слонімскім і іншых раёнах.

Аднак пры фармаванні новай Дзяржаўнай праграмы па пераадоленню паступстваў трагедыі ЧАЭС на 2001-2005 гады і на перыяд да 2010 года Гродзеншчыне значна ўрэзаны сродкі. Гэта ўскладняе стварэнне сацыяльнай інфраструктуры як на забруджаных тэрыторыях, так і ў пасёлках перасяленцаў. Там ёсць жыллё, але шмат праблем па стварэнні нармальных умоваў для жыцця грамадзян.




**На здымку: паштоўка работы Аляксея Марачкіна “Маці Боская ахвяраў Чарнобыля”. Гэты абраз асвечаны на плошчы Свабоды ў Мінску 26 красавіка 1990 г.**

# А КОЛЬКІ ЯШЧЭ НЕ ЗРОБЛЕНА!

Аляксандр Сямёнавіч Палубінскі 18 сакавіка адзначыў 80-годдзе. Мала хто зрабіў столькі ў краязнаўстве, як ён. Ніхто так глыбока не ведае далёкія і блізкія гістарычныя падзеі Свіслацкага раёна…

А пачалася зацікаўленасць мінуўшчынай роднага краю ў 1957 годзе. Тады малады настаўнік беларускай мовы і літаратуры працаваў дырэктарам Вялікасельскай 8-гадовай школы. Да гэтага закончыў Гродзенскі педагагічны інстытут, загадваў пачатковай школай. Заняўся вывучэннем гісторыі акаляючай школу мясцовасці. З часам уцягнуўся ў краязнаўчы занятак і не пакідае яго дагэтуль, на якой пасадзе б не працаваў: дырэктарам Свіслацкай школы-інтэрната, дырэктарам Свіслацкай СШ, навуковым супрацоўнікам Свіслацкага раённага гісторыка-краязнаўчага музея.

Аляксандр Сямёнавіч прыклаў вялізныя намаганні па стварэнні школьных краязнаўчых гурткоў, музеяў імя К.Каліноўскага школы-інтэрната, раённага краязнаўчага, гісторыі Свіслацкай гімназіі, гісторыка-краязнаўчага ў СПТВ-194 Бераставіцкага раёна, музея калгаса імя Леніна…

Сам краязнаўца сведчыць, што трымаўся такіх кірункаў у вывучэнні роднай зямлі: гісторыя продкаў, археалагічныя помнікі раёна, Свіслаччына ў складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, Свіслач за часамі графаў Тышкевічаў, жыццё і дзейнасць Кастуся Каліноўскага, Свіслацкая гімназія, прагімназія, настаўніцкія семінарыі (руская, беларуская, польская), час фашысцкай акупацыі Свіслаччыны.

Сваім даследаванням абавязкова надае галоснасць. Артыкулы змяшчае ў раённай газеце, абласной “Гродзенскай праўдзе”, “Настаўніцкай газеце”. Будуць яго публікацыі ў кнізе “Памяць”, прысвечанай Свіслацкаму раёну. Шмат хто чуў яго выступленні па радыё. Распавядаў краязнаўца пра свае пошукі і знаходкі па тэлебачанні.

За пражытыя гады здзейснена шмат. Можна падводзіць вынікі. Аднак Аляксандр Сямёнавіч глядзіць наперад. Ёсць новыя задумкі. Значыць, будуць і плённыя дасягненні.

Здароўя Вам, Аляксандр Сямёнавіч!

**Антон Лабовіч**

# ЧАС ДАЛЁКІ, ЧАС СУРОВЫ

Выдадзена брашура “Ваўкавыскі варыянт”. Журналіст Валерый Задаля ў гісторыка-краязнаўчым нарысе асэнсоўвае палітычныя, сацыяльна-эканамічныя і культурныя падзеі, якія адбываліся ў Ваўкавыскім раёне ў верасні 1939-га – чэрвені 1941 г.

Важнейшай крыніцай інфармацыі для аўтара сталі падшыўкі даваеннай раённай газеты “Зара”, абласной “Вольная праца” (Беласток), іншыя рэспубліканскія выданні таго часу, успаміны відавочнікаў, архіўныя звесткі, працы навукоўцаў.

Брашура надрукавана пры дапамозе Гродзенскага абласнога грамадскага аб’яднання “Ратуша”. Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

**Сцяпан Ярашчук**

■ РЭХА МІНУЛАГА

# СТАРШЫНЯ ЎРАДА З ДЗЯТЛАВА

*Старшыня першага ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі (Народнага Сакратарыяту), кіраўнік выканкама Савета Усебеларускага з'езда (часовага беларускага ўрада з 21 лютага 1918 г.), міністр па справах нацыянальнасцяў ва ўрадзе Антона Луцкевіча, ураджэнец мястэчка Дзятлава Язэп Варонка (17.4.1891-4.6.1952) пакінуў пра сябе неадназначнае меркаванне. Вельмі мала вядома пра яго жыццё пасля эміграцыі ў 1923 годзе на сталае месца жыхарства ў ЗША. Там заснаваў першую беларускую газету "Беларуская трыбуна". Памёр у Чыкага.*

Пад яго кіраўніцтвам урад БНР зацвердзіў у якасці пячаткі рэспублікі пячатку Міндоўга (з "Пагоняй"), даручае славутаму вучонаму Мітрафану Доўнар-Запольскаму падабраць кадры для універсітэта ў Мінску, адчыняе беларускія школы і выдавецтвы. Надрукаваў свае брашуры "Беларуская справа да міравой нарады ў Вэрсалі" і "Беларускі рух ад 1917-га да 1920-га году".

У Гродна ён прыехаў 3-га студзеня 1919 года ў якасці міністра беларускіх справаў літоўскага ўрада (1.12.1918). Адмовіўся ад пасады міністра ва ўрадзе прэм'ера БНР Антона Луцкевіча, які таксама ў той час быў у нашым горадзе. Адносіны паміж імі не ладзіліся.

Язэп Варонка разгарнуў бурлівую палітычную дзейнасць. Адразу арганізаваў афіцыйную канферэнцыю камісараў літоўскага ўрада з удзелам К.Езавітава, К.Цярэшчанкі, С.Бялевіча, Л.Дзякуць-Малея, П.Крэчэўскага, А.Маеўскага, М.Касцевіча, М.Кашчанецкага.

6-8 студзеня 1919 г. праводзіць у Гродне канферэнцыю беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў, лідэрам якой ён жа і быў. Гэтая партыя, як і партыя мясцовых беларускіх эсэраў, партыя народных сацыялістаў была фікцыяй.

На нейкі час становіцца нават галоўнай палітычнай фігурай у Гродне, адсунуўшы на другі план Антона Луцкевіча. Аднак гэта было нядоўга. Службовыя справы вымагалі ад Язэпа Варонкі выязджаць у Коўна. У Гродна ён з'яўляўся яшчэ некалькі разоў.

Характар Язэпа Варонкі і яго дзеянні можна зведаць з дзённіка Антона Луцкевіча: "9 студзеня. Чыста праклящце вісіць над беларусамі з гэтай асабістай грызнёй паміж нашымі дзеячамі: прыехаў у Гародню Варонка, за ім следам яго антаганіст Аляксюк… Ізноў узаемныя абвіненні чорт ведае ў чым…" Антон Луцкевіч ведаў пра кожны крок Язэпа Варонкі, папракаў за тое, што ён карыстаўся паслугамі даносчыкаў і "ваабразіў сябе літоўскім жандармам". Подпіс Язэпа Варонкі стаяў пад тэкстам тэлеграмы Рады БНР ад 25 красавіка 1918 года на імя нямецкага імператара Вільгельма II.

Антон Луцкевіч моцна крытыкаваў Язэпа Варонку за бруд, які той лье на "ўсё беларускае" у сваім штотыднёвіку "Часопісь", газетах Беларускі народ" і "Бацькаўшчына", за фактычнае спыненне развіцця беларускамоўных школ у Беластоцкім павеце. Грошы на арганізацыю з'ездаў, "бягучыя работы", аплату дзейнасці Гродзенскай управы між тым знаходзіліся…

Сціплыя звесткі пра дзейнасць Язэпа Варонкі ў Гродне можна знайсці ў брашуры "Гарадзенскія апосталы" гісторыка Андрэя Чарнякевіча, адлюстраваны ў выданнях энцыклапедычнага характару.

**Антон Лабовіч**

■ АДРОДЗІМ МІНУЎШЧЫНУ

# ВЫЗНАЧАНЫ КІРУНКІ ПРАЦЫ

У лютым у Лідзе быў праведзены адукацыйны семінар для краязнаўцаў вобласці. Прысутнічала 103 асобы з 14 раёнаў Гродзеншчыны. Адначасова было створана лідскае краязнаўчае таварыства, абрана Рада, сябры якой адразу прыступілі да работы.

Абмеркаваны план на бягучы год. Вырашана выдаць чатыры нумары часопіса "Лідскі летапісец", надрукаваць спіс знакамітых ураджэнцаў Лідчыны, сабраць матэрыял і падрыхтаваць да выдання ілюстраваны праспект "Лідскі Крыжаваздзіжанскі касцёл", правесці археалагічныя раскопкі, наладзіць фотавыстаўку Ігара Пешахонава "Шляхецкія сядзібы Лідчыны", падрыхтаваць сумесна з ТБМ выстаўку "Паэты і літаратары Лідчыны 20-га стагоддзя", а таксама арганізаваць паэтычныя вечары. Пачата актыўная работа над стварэннем Энцыклапедыі Лідчыны. Неўзабаве абмяркуем яе праект і сабраны матэрыял.

У склад Рады ўвайшлі спрактыкаваныя краязнаўцы – кіраўнік гурткоў у Доме творчасці школьнікаў, старшыня таварыства польскай культуры на Лідчыне, галоўны рэдактар часопіса "Ziemia Lidzka" Аляксандр Калышка, інжынер ПЭСА Леанід Лыўрэш, маляр ТЧ-5, кіраўнік рыцарскага клуба "Княства Дайноўскае" Юрый Мандрык, старшыня яўрэйскага рэгіянальнага Мемарыяльна-культурнага грамадскага таварыства Ася Савулкіна, рэдактар газеты "Наша слова" і часопіса "Лідскі летапісец" Станіслаў Суднік, педагог-псіхолаг Дзітвянскай школы, кіраўнік краязнаўчага гуртка, захавальнік музея "Беларуская хатка" Наталля Тыванюк, наладчык электраабсталявання, намеснік старшыні Лідскага рэгіянальнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Уладзімір Хрышчановіч.

**Валерый Сліўкін,**
**старшыня Рады, старшы навуковы супрацоўнік Лідскага музея, кандыдат геаграфічных навук.**

Бюлетэнь «Краязнаўчая газета»

Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна. Адрас: 230023 г. Гродна, п/с 22. Будзённага, 48-а.

Наклад 299 асобнікаў
Адказны за выпуск Сцяпан Ярашчук
Дызайн і вёрстка Адам Кір'яцкі

Бюлетэнь дабрачынна падрыхтаваны сябрамі краязнаўчых суполак і аб'яднанняў Гродна і надрукаваны пры падтрымцы Інстытута адкрытага грамадства (Парыж) і абласнога аб'яднання "Ратуша"